Цана асобнага нумару 15 гр. У гэтым нумары 6 старонак. Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 87 (138). Вільня, Субота 26 Лістападу 1927 г. Год III

# СЯЛЯНСКАЯ НІВА

Нахай жыве Беларускі Народ!

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:
Вільня, Вострабрамская 8—1.
(Wilno, ul. Ostrobramska 8—1):

Рэдакцыя адчынена штодня ад 9 да 3 гадзінах апрача сьвята.

Рэдактар прыймае ад 12 да 2 гадз.

Зямля Сялянству бяз выкупу!

Падпіска:
на адзін месяц — 1 зал., на 3 месяцы — 2 зал., на 6 месяцаў 4 зал., на год — 8 зал.
Для заграніцы удвая даражэй.
Аплата надрукаванага залежыць ад рэдакцыі

ВЫХОДЗЕ Ў СЕРАДУ І СУБОТУ.

ОРГАН БЕЛАРУСКАГА СЯЛЯНСКАГА САЮЗУ.

## Ізноў тое самае.

У адным з папярэдніх нумароў, у артыкуле „Нашыя апякуны“, на аснове фактаў, мы даказалі, што польская газэта „Кур'ер Віленскі“ аднолькава варожа адносіцца да беларускага руху, як і „Дзеньнік Віленскі“; калі і ёсьць нейкая рожніца, то толькі ў способах барацьбы з беларускім рухам. Адчак ня гледзячы на гэта „Праца“, якая мае прэтэнсію да апекі над беларускай работніцкай класай у № 6, у артыкуле „Навет чужыя разумеюць!...“ паміж іншым цьвердзіць, што гэтая польская газэта „Кур. Віл.“ спагадна адзываецца аб беларускім руху. Вяручы гэтае цьверджаньне за аснову, „Праца“ прытачвае некаторыя выпіскі з вядомага артыкулу S. W.—„У дагонку за мандатамі“ і адначасна стараецца зганьбіць Сялянскі Саюз і яго правадыроў.

Вельмі дзіўным выглядае тое, што „Праца“ пачала лічыцца з апініяй „Кур. Віл.“ калі ходзе аб абарону Луцкевіча і аб напады на паслоў Ярэміча і Рагулю! Чаму гэта „Праца“, ці скарэй сваечасная яе папярэдніца не рабіла выпісак з „Кур. Віл.“, як той перад арыштамі паслоў і сяброў Грамады зьмяшчаў на Грамаду рожныя кампрамітуючыя весткі і артыкулы, як той дамагаўся ад ураду “сільнай рукі“?! Тады папярэдніца „Працы“ маўчала, або падавала выясьненьні, што закіды проці Грамады былі безпадставнымі. З гэтага бачым, на сколькі можна верыць газэце „Кур. В.“ і на сколькі „Праца“ выконвае ў беларускім руху падазроную ролю, калі ў прысьцяжку да польскае газэты пачынае ганьбіць сапраўдную беларускую сялянскую партыю—Сялянскі Саюз і яго павадыроў.

Усім добра ведамы вялікія заслугі ў сваей пасольскай працы і на ніве арганізацыі беларускага адраджэнскага руху паслоў Рагулі і Ярэміча. Увесь час яны востра і сьмела змагаліся ў Сойме за правы Беларускага Народу: за зямлю беларускаму сялянству бяз выкупу, за скасаваньне асадніцтва, за палітычныя правы, за амнэстыю для палітычных вязьняў, за беларускую школу, за самаўрады, змагаліся з самаволяй і зьдзекам адміністрацыі, падаючы сотні інтэрпэляцыяў і сьпешных прапазыцыяў. Пасьля арышту паслоў з Грамады, паслы Рагуля і Ярэміч выступалі ў Сойме ў іх абароне, імкнуліся ўсімі спосабамі каб Сойм ня выдаў паслоў. Праўда, за гэта ім „падзякаваў“ Луцкевіч. Але паслы баранілі Грамаду не дзеля таго, каб пачуць падзяку ад Луцкевіча, а дзеля таго, што гэтым самым баранілі беларускі рух ад безпраўя. Гэтая шчырая і адданая для Беларускага Народу праца, ёсьць ведама, не падабалася польскім урадам і, затым, нічога дзіўнага, што ўрадавая газэта „Кур. Віл.“ нападае на Сялянскі Саюз і яго правадыроў паслоў Рагулю і Ярэміча. Але чаму-ж гэта бярэ з яе прыклад „Праца“ і таксама чэрніць добрае імя найвыдатнейшых беларускіх дзеячаў у Заходняй Беларусі?! Ня інакш, як тыя самыя, што вялі грамадаўцаў у вастрог і цяпер працуюць пад сьцягам „Працы“ і імкнуцца ўсялякімі способамі ліквідаваць беларускі рух. Найбольш балюча выглядае тое, што гэтыя асобы пачалі сваю акцыю ў часе перад самымі выбарамі. Яшчэ не обсохла пяро, якое пісала наш артыкул „Першы крок“, як замест аб'яднаньня на выбары на старонках „Працы“ мы знаходзім адказ на „Першы крок“ у форме брудных і агідных слоў, якімі правакатары стараюцца чарніць выбранцаў Беларускага Народу. Можна вам гэта рабіць, папера церпіць, але Беларускага Народу вам не ўдасца атуманіць і запоўчаць Беларусамі вастрогі. Наступаючыя выбары пакажуць, ці Беларускае Сялянства ў сваей масе пойдзе за сваімі пасламі Рагуляй і Ярэмічам, ці аддасьць галасы за сьпіскі, у якіх будуць шкоднікі. Мы поўны веры, што ўсё сялянства пойдзе за беларускім блёкам, на чале з пасламі Рагуляй і Ярэмічам, а вашай грызьні і разьеданьню беларускага руху дасьць праклён.

## ПРАДВЫБАРНЫ РУХ.

Усё палітычнае жыцьцё польскае дзяржавы і ўсіх яе вольных і нявольных падуладных захоплена цяпер перадвыбарчаю гарачкаю. Стары Сойм і Сэнат уміраюць 28 г. лістападу і хоць яшчэ ён (урад) маўчыць (а толькі ад яго гэта залежыць), але-ж па нейкай інтуіцыі перадвыбарны рух ужо фактычна распачаўся. Пастараемся абрысаваць гэты рух для Беларускага Грамадзянства.

Польскія партыі „Вызваленьне“, „Страніцтва Хлопскае“ пры ўдзеле і падтрыманьні дэмакратаў з „Kurjera Wileńskiego“, захапіўшы на буксір „Беларуса“ Умястоўскага, які больш выяўляе польскасьці за самога марш. Пілсудскага, робяць польскае краёвае аб'еднаньне. Гэта нас не цікавіла-б калі-б яны робячы аб'яднаньне для таго, каб выкарыстаць сваіх Палякаў, але-ж мусім зарэагаваць на гэта дзеля таго, што яны аб'ядналіся, каб гэтым самым мець большую сілу, якою-бы спрытней атакаваць беларускае сялянства.

Прадстаўнікі гэтага аб'яднаньня Галька, Вэндзягольскі, Дуброўнік, Рачкевіч і другія, засыпалі, некаторыя мясцовасьці Беларусі, сваімі адозвамі заклікаючы пад свой **польскі** сьцяг. Яны нават думаюць наладзіць нейкі зьезд. Вось чаму мы забіраем голас у гэтай справе і зьвяртаемся да нашага Беларускага Народу з гэтакімі словамі: кожны Беларус павінен ведаць, што яму з польскімі партыямі не па дарозе. А дзеля гэтага самага ніхто з Беларусаў не павінен, ва імя сваіх кроўных інтарэсаў, мець нічога супольнага з вышэй паданымі польскімі партыямі. Вось наша першая перасьцярога.

Другая камбінацыя нарысоўваецца гэтакая: польская партыя „Працы“, зьвёнзак направы Рэчыпаспалітай і „беларускі“ чорнасоценьнік Паўлюкевіч. Як першая так і другая група імкнуцца да аб'яднаньня паміж сабою, захапіўшы пад сваё крыло „вечных вандроўнікаў“ Шапеля ды Шакуна, якія хацелі прыстаць да беларускага берагу, каб муціць чыстую ваду. І вось наша другая перасьцярога: ухіліцца ад усіх гэтых польскіх „кракадзілаў“, якія ўжо раскрылі свае шырокія і зубастыя зевы, каб праглынуць наш паднявольны Беларускі Народ. Прыточым да гэтага маленькую характарыстыку.

Польская партыя „Вызваленьне“, на прошлых выбарах выступала пад знакам направы нашага жыцьця, вінавацячы ў-ва ўсім нашым бяздолі польскі ўрад. Але-ж як высьнілася пасьля, на машалкоўскім судзе пасла Ваявудзкага, дык „Вызваленьне“, вяло сваю працу за ўрадавыя грошы. І вось што: калі „вызваленцы“ распачалі працу ў Сойме, дык пачалі вызваляць наш народ не ад нядолі, а ад той маленькай долі, якую мы мелі да таго. Гэта-ж яны галасавалі за тое, каб садзіць на нашых землях асаднікаў, гэта-ж яны галасавалі за гэты закон, згодна якога парцалююцца маёнткі паміж каляністымі Палякамі з Мазоўша, Пазнаня ды з пад Кракова.

У далейшым мы пастараемся больш падрабязна высьветліць праўду і паўней схарактарызаваць кожную з гэтых партыяў, а цяпер дадамо да ўжо сказанага, што ўсе тыя партыі, якія мы ўспомнілі зьяўляюцца ўрадавымі (казённымі) партыямі, якія, як пісала польская-ж газэта „Robotnik“ істнуюць дзякуючы падтрыманьню з боку польскага ўраду. Вось чаму ўсе іх абяцанкі ёсьць ня што іншае, як пустыя словы, бо калі-б урад жадаў даць якую палёгку нашаму народу, дык даўбы проста, як маючы ўладу, але-ж тут справа зусім іначай пастаўляна, ніякі Паляк ня жадае нам дабра: кожны з іх хоча прайсьці ў Сойм, каб там ізноў даваць нам новыя партыі асаднікаў ды каляністых.

У праціўвагу ўсім гэтым партыям творыцца беларускае нацыянальнае аб'яднаньне, у якое ўваходзяць: Беларускі Сялянскі Саюз, Беларуская Хрысьціянская (як каталіцкая і так праваслаўная) Дэмакрацыя і безпартыйныя беларускія дзаячы, якія не запэцканы прадажнасьцяй і выслугоўваньнем перад чужынцамі, маюць мэту і ідэал нацыянальнага адраджэньня сацыяльнага вызваленьня Беларускага Народу— г. зн. якія стаяць на незалежніцкай плятформе.

Беларускае аб'яднаньне складзеная з вышэй пададзеных элемэнтаў творыць выбарны блёк нацыянальных меншасьцяў. У гэты блёк увойдуць: Беларусы, Украінцы, Жыды, Немцы і Ліцьвіны. Кожны з гэтых народаў зьяўляецца пакрыўджаным пануючай нацыяй — Палякамі і дзеля гэтага блёк іх зьяўляецца зусім натуральным, бо толькі гэтакім спосабам можна будзе змагацца з несправядлівасьцю.

Блёк па сваей канструкцыі будзе чыста тэхнічны, такой блёкіроўкі вымагае польскі выбарны закон. Без блёку можа стаць гэтак, што ніхто: а ні Беларусы, а ні Жыды (паасобна) не атрымаюць пасольскіх мандатаў.

Трымайцеся Беларусы, глядзіце, каб вас не выкарысталі вашыя ворагі для таго, каб вашымі рукамі крыўдзіць вас!...

## Блёко-манія і блёко-боясьць.

(Пісьмо з Варшавы).

Гэты артыкул узяты з газэты „Сегодня“, якая выходзіць у Латвіі, а дзеля гэтага пагляды бесстаронььяга наглядчыка аб справе выбарау у Польшчы вельмі цікавыя.

Прадвыборчая праца ў Польшчы пачалася, хаця стары Сойм фармальна не закончыў свайго істнаваньня... Вачавідна, лічыцца, што калі ён і жыве, дык гэта—жывы труп. І ўсе думкі зьвернуты на будучыну. Цікавае для сучасных соцыялёгаў і палітычных мысьліцеляў зьявішча: у самым Сойме, за ўвесь час яго істнаваньня ішоў ціхі працэс партыйнага дзяленьня, драбленьне на фракцыі, групы ня спынялася да апошніх дзён. Але вось ударыў звон, прызываючы да новых выбараў — і грамадзкая хваля пабегла ў проста працілеглым напрамку. Цяпер у палітычных колах толькі і гавораць аб блёках, аб агульных сьпісках, аб адзінстве дзеяньня і г. д. Больш за ўсё аб блёках. Здаецца, няма групы, каторая-б ня думала аб тым, з кім і як ёй блёкавацца. Назначыўся цэлы рад блёкавых камбінацыяў—праўда, ня ўсягды трывалых: іншыя разваліваюцца ўжо да вечара таго дня, у каторы яны пачаліся. Але дзеля таго, каб у наступны дзень адрадзіцца ў якой-колечы новай форме.

Бадай, найбольш інтрыгуючай усіх блёкавай праблемай зьяўляецца пытаньне аб блёку нацыянальных меншасьцяў. На прошлых выбарах (1922 г.) блёк гэты дзеяў — і досыць пасьпешна: у яго ўваходзілі тагды жыды, немцы, украінцы, беларусы і расейцы. Усе яны ішлі тады па агульнаму сьпіску, пад № 16.

Ці адновіцца такі блёк цяпер? Перагаворы аб гэтым пачаліся і ўсіленна вядуцца ў соймавых фракцыях нацыянальных меншасьцяў. Расейцы ў гэтых перагаворах ня выкрываюць свайго ўчасьця. Заместа іх зьявіўся новы сябра дапускаемага блёку—ліцьвіны. Быў, зрэшта, праект стварэньня агульнага сацыялістычнага блёку з прыцягненьнем сацыялістых ад нацыянальных меншасьцяў. Здаецца, гэтую ідэю трэба лічыць пахаванаю. Аднак-жа, некаторыя найбольш левыя меншасьцёвыя групы, магчыма, зблёкуюцца з падобнымі польскімі партыямі.

Гэтыя абставіны (напрыклад польска-беларускі блёк Рэд.), аднак-жа менш безпакояць павадыроў польскіх кругоў, чым магчымасьць агульнага блёку нацыянальных меншасьцяў, (без Палякоў. Рэд.), наўзор „шаснасткі“ (№ 16) мінулых выбараў. Процiў гэтае камбінацыі ў адказнай польскай прэсе адкрылася сур'ёзная кампанія. Камбінацыя выяўляецца цяпер прынцыпова недапусьцімаю.

Вось як адзываецца аб самай ідэі „шаснасткі“ газэта „Эпоха“, блізкая, як і „Голас Праўды“ (каторы з ёю ў гэтым зусім салідарны) да ўрадовых польскіх кругоў. „Што такое „шаснастка?“ —пытае газэта.—Замежніку гэтая слова нічога ня кажа, але ў кожным паляку—бяз рожніцы паглядаў — яна ўзбуджае ненавісьць і абурэньне. Адкуль гэтакая аднадумнасьць у польскім грамадзянстве, так раздробленым палітычна і наагул індывідуалістычным? Чаму прыпісаць так вострую рэакцыю на такога роду зьявішчы?

На гэтыя самыя пытаньні сама газэта адказвае так: „А таму, што „шаснастка“ як гэта паказалі выбары 1922 г. зьяўляецца ня проста выбраным блёкам, ствараючымся на глебе агульных дзяржаўных, культурных ці палітычных патрэбаў і вымаганьняў, не, гэта—змова супроць дзяржавы, інспіруемая і падбухторываная звонку... Вось чаму польскае грамадзянства ў гэтым пункце было і будзе выяўляць выключную чуткасьць, раздражнёнасьць і нават падазронасьць“...

Разгледзіўшы за тым склад групаў, якія блёкуюцца і падчыркнуўшы ненатуральнасьць яго з пункту гледжаньня соцыяльных рожніцаў, паклаўшыся на немагчымасьць украінска-жыдоўскага зьбліжэньня пасьля працэсу Шварцбарда („маральныя пачацьці старасьветнага народу Ізраэля так рожныя ад маладых, славянскіх народнасьцяў, якія яшчэ толькі фармуюцца), — „Эпоха“ галоўную адказнасьць, у выпадку ўзьнікненьня блёку меншасьцяў — пакладае на жыдоў, як на „найболей палітычна сьвядомы і арганізаваны элемэнт, каторы знаходзіцца ў найлепшым матэрыяльным палажэньні і ад каторага прыходзіцца вымагаць большага... Цёмныя гушчы крэсавага сялянства могуць паддавацца якім-кольвек крыклівым лёзунгам, але рашчотлівая і асьцярожная жыдоўская публіка, калі яна такжа пачынае ісьці такім шляхам, — дык гэта значыць ужо, што яна ідзе не па захопленьню, а па халодна ўзважанаму пляну“. У гэтым характары напісаны ўвесь артыкул у газэце, да гэтых часоў нязьменна прытрымліваўшайся хутчэй прызнае да жыдоў пазыцыі, чым крытычнае.

А поруч тут-жа, каля гэтай перасьцярагаючай перадавіцы зьмешчаны гутаркі супрацоўніка памянёнае газэты з лідэрамі жыдоўскіх палітычных партыяў, п.п. Грунбаўмам і Рэйхам.

На пытаньне супрацоўніка, — ці чакае п. Грунбаўм карысных вынікаў ад перагавораў, якія распачаліся ў справе блёку нац. менцасьцяў, —быў адказ: — „Па майму пераканаьню справа стаіць на добрым шляху і блёк зарганізуёцца“.

— Але на што, да чаго гэты блёк? — запытаў супрацоўнік „Эпохі“.

— Таму,—адказаў п. Грунбаўм, — што з восені 1922 г. нічога не змянілася. Выбарчы закон не дае жыдом магчымасьці дабіцца належнага парлямэнцкага прадстаўніцтва. Бяз блёку мы атрымалі бы якіх-кольвек шэсьць мейсцаў. У прынцыповых адносінах для жыдоў зроблена ня вельмі многа, і падзеяў на будучыну нам ня прыходзіцца чакаць у гэтым сэнсе.

— Але з 1922 г. многа перамянілася да лепшага. Хоць-бы — напрыклад, настроі (гумары)...

— Але, настроі ўва Урадзе і ў гушчах істотна зьмяніліся да лепшага. Адносіны сталі больш людзкімі (Разумеецца да жыдоў. Рэд.).

— Дык ці-ж не праўдней было-б жыдом не прыбегаць да падмогі процівадзяржаўных элемэнтаў?

— Але-ж блёк, дзяржаўнага пункту гледжаньня, ёсьць зьявішча консолідацыі. Па мойму, лепш, калі меншасьці будуць весьці сваю барацьбу ў парлямэнце.

— Ну, прыклады, меўшыя мейсцы да гэтых часоў, паказуюць, што яны ня ўсягды затрымліваліся на гэтым шляху.

— Гэтага нельга было прадбачыць. Мала чаго. Дык ня толькі з славянскіх меншасьцяў выдзяляліся камуністыя. Нешта можна было-б расказаць і аб „Вызваленьні“ (адна з левых польскіх групаў). — Зрэшта, ў дапусканым блёку камуністыя ня будуць прымаць удзелу.

— А вы не чакаеце, што пасьля стварэньня блёку меншасьцяў, — хваля антысэмітызму паднімаецца?

— Гэтаму я ня веру. Дзе—дзе, а ўжо ў Польшчы лічацца з сілаю. Чым больш сьмеласьці ў барацьбе, — тым больш надзеі на перамогу. Калі жыды ня будуць мець сілы і значэньня,—яны ня змогуць заваяваць сабе таго, што трэба.

---

Да вышэй паданага можна прытачыць некалькі гэтакіх увагаў:

У „Сялянскай Ніве“ мы пісалі, што блёк некаторых лявіцовых ці сацыялістычных, або, як іх называюць Палякі, камунізуючых партыяў, беларускіх і ўкраінскіх з польскімі, польскаму ўраду не страшны, і вось, у вышэй паданым артыкуле находзім пацьверджаньне нашых вывадаў. За тое-ж блёк самых нацыянальных меншасьцяў без Палякаў, як відна, вельмі трывожыць урад.

Гэтакія падзеі, як выбары, заўсёды штоколечы ды выявяць. Вось і тут мы відзім, што Палякі яшчэ і дагэтуль не здабыліся на гэтакае зразуменьне, каб аддзяліць Беларуса ці Украінца ад бальшавіка. А дзеля гэтага артыкул лічым вельмі цікавым.

*Сяляне! Запісвайцеся у Беларускі Сялянскі Саюз!*



## З жыцьця Польшчы.

### Нешта будзе і... хутка.

23 лістап. у Вільні адбывалася палітычная канфэрэнцыя. У канфэрэнцыі прымалі ўчасьце: прэм'ер Пілсудскі, . міністар замежных спраў Залескі, віцэ-міністар Кнольль, польскія пасла ў РССР і ў Латвіі, начальнік усходняга аддзелу мін. зам. спраў, начальнік II аддзелу генэральнага штабу—якія прыехалі з Варшавы. На канфэрэнцыі абгаварываліся польска-літоўскія справы—ў сувязі з надыходзячай сэсіяй Лігі Нацыяў, у якую літоўскі ўрад Вальдэмараса падаў абжаленьне на Польшчу. Абгаварывалася таксама справа і літоўскіх эмігрантаў, апазыцыянераў да ўраду Вальдэмараса, якія уцякаюць у Польшчу.

24 лістападу прэм'ер Пілсудскі канфэраваў з вайсковымі і адміністрацыйнымі ўладамі Віленчшыны.

У сувязі з гэтай канфэрэнцыяй абшарніцкая газэта „Słowo“ зьмяшчае вось гэтакія выразы: „хто нам сягоньня зьвязывае рукі ў справе Ковеншчыны? — На гэта адказываем—ніхто... Расея... радасна прывітала-бы тую часіну, у каторую мы занялі-б Коўну... У Нямеччыне колькасьць староннікаў заняцьця Коўны палякамі болей знойдзецца, чым у СССР... Хочам уваскрашэньня уніі, хочам еднасьці Вільні з Коўнаю, хачам мець Караля і Вялікага Князя!“.

Карэспандэнт нямецкае газэты „Berlin. Tagebl.“ піша, што Радавы ўрад дапускае, што Польшча яшчэ перад паседжаньнем Лігі Нацыяў зробіць крок, каторы паставіць Лігу Нацыяў перад зьдзейсьняным фактам. Далей гэты карэспандэнт заяўляе, што Саветы і Нямеччына будуць адстаіваць сувэрэннасьць (самастойнасьць Літвы).

Канфэрэнцыя гэтая зрабіла вялікае ўражаньне і парушэньне сярод літоўскіх палітычных колаў.

### Ноты СССР.

Урад СССР. цераз свайго пасланніка Багамолава даручыў польскаму ўраду ноту ў справе апошніх польска-літоўскіх падзеяў. Нота заклікае польскі ўрад мірным шляхам разьвязаць польска-літоўскі канфлікт.

Такую-ж ноту ўрад СССР. даручыў і літоўскаму ўраду ў Коўне.

### Польска нямецкія гандлёвыя перагаворы наладжваюцца.

22 лістападу польская дэлегацыя падпісала з Немцамі умову аб вывазе лесу з Польшчы ў Нямеччыну. Умова гэтая ўваходзіць у жыцьцё з днём 1 студзеня г. г.

Ня будзе пашкоды нашым лясом...

### Сьмерць Пшыбышэўскага.

Знаны польскі пісьменнік Станіслаў Пшыбышэўскі памёр 23 лістападу г. г. Сьмерць наступіла ад удару сэрца. Пакойны пражыў 60 гадоў.

### „Польскае“ золата.

У сувязі з амэрыканскаю пазычкаю Польшча закупляе ў Англіі золата. Як інфармуюць замежныя газэты, гэтае золата пойдзе на выбіваньне залатое манэты, якая павінна гвараntаваць курс істнуючае польскае валюты. Польскі банк, бадцам, замышляе патраціць на куплю золата 15 мільёнаў даляраў.

### „Гуманітарны праект“.

Рада Міністраў на апошнім паседжаньні прыняла праэкт распараджэньня Прэзыдэнта аб... кары сьмерці. Згодна гэтага праекту асуджаны на кару сьмерці мае права жыць у працягу 24 гадзін ад мамэнту прысуду. „Гуманітарны праект“ уводзіць па ўсей Польшчы адзіны спосаб кары сьмерці—павешаньне.

# Вершы на часе.

* * *

I як, аб чым тут лятуцець,
Калі ня міла жыць на сьвеце,
Калі ня трэба мне глядзець
На ўсё што дзеецца... Эх дзеці!
Няўжо ніхто ня бачыць з вас,
А калі так, няўжо ня чуе
I ў бок той вочы ня скіруе
Скуль ночка сунецца на нас?!
Няўжо паны „павадыры“
Вы як да сюль—і дальш з гары
I паасобку і ў хаўрусе
На справы Маці Беларусі
Праз пальцы будзеце глядзець,
Пакуль і ночка западзець?...
Калі ідэя вас жывіць,
Тады скажу—даволі! годзі!
У сварцы між сабою быць,
Тады адкрыйце дзьверы згодзе!
Пара здаецца зразумець,—
Што ў адзінстве, што ў згодзе сіла,
Асобна—што-б вы не рабілі,—
Ніхто з вас „возу“ не скранецъ!
Хоць з сілы лезеце вы ўсе,
Ды ўсё дарма, Браты мае!
Пакіньце гэтыя змаганьні
Задайце лепш сабе пытаньні—
„А што тагды—як прыдзе ноч,
Як цемра шлях схавае з воч?..“
Гэй, годзі ў сварцы жыці вам!
I сіл і часу не марнуйце
Дык чуйце, я вам раду дам,
А вы за ёй ісьці спрабуйце:
Табе „рак“—трэба шлях зьмяніць
Ты мусіш першы йсьці на ўгоду—
Цягні-ж „воз“ разам з „шчукай“ ў воду
Бо й ты—ў вадзе-б мог толькі жыць!
А „лебедзь“—кінь ты гэты „воз“
Бо да таго ты недарос,
Каб гэты „воз“ цягнуць у хмары
Табе не ўзняць такой цяжары.
Дык лепш аб ім і думаць кінь
Ды і ляці туды адзін.

*Яснавід.*

## ПАЧАТАК ЗІМЫ.

Нявідомаю рукою
Разаслана коўдра—бель,
Што схавала пад сабою
Шэра-чорную пасьцель.
Разіць вочы бель срабрыста,
Аж на небе б'е адсьвет,
Гладка ўсюды, ўсюды чыста...
Адрадзіўся, быццам, сьвет.
Глянь на поле—аднастайна,
Межаў з быльнікам—не знаць
Толькі груды нязвычайна,
Нібы гузікі, сядзяць.
Чорным шлякам лес маўклівы
Азначае небасклон
Ды гаёчак сіратлівы,
Бы кутас, тырчыць пры ём.
Быццам пацяркі, радочкам
Хаты бедныя стаяць,
Тонкім шэрым паясочкам
Частаколы іх краймяць.
Цішыня! Бы ўсё сьвяткуе...
Нібы, цуд вялікі чціць...
Цішыня! Бы ўсё начуе
I пад коўдрай-бельлю сьпіць.

*Улад. Ініцкі.*

Гэты запас павінен быць прыблізна каля 7 цаляў.

Вось галоўныя прыкметы малочнае каровы, на якія раю зварачваць нашым гаспадаром больш увагі. **Гаспадар.**

### Дзесяць запаведзяў для даільшчыцы кароў.

1) Даі кароўку ня двама пальцамі, а ўсей рукой.

2) Перад даеньнем вымый добра свае рукі і вытры мокрым ручнікам вымя каровы.

3) Першыя каплі малака не даі ў пасудзіну.

4) Даі кароўку начыста, калі яе ня хочаш папсаваць.

5) Абходзься з кароўкай лагодна.

6) Унікай крыку і шуму пры даеньні, бо кароўка дасьць менш малака.

7) Не даі кароўку ў часе кармленьня, бо яна ня можа разам выконваць двух прац: пераатраўліваць корм і выпрацоўваць малако.

8) Падаіўшы кароўку вытры вымя і дойкі насуха ручніком.

9) Ня трымай малака доўга ў хлеве, каб яно не ўцягнула ў сябе хлеўнага паветра.

10) Даі кароўку заўсёды ў раз вызначаны час. **Гаспадар.**

# Весткі з Краю.

### „Русскій дѣятель“

Нашы Баранавічы на Беларусі—як-бы які востраў... Мала было чутна аб „Грамадзе“ яшчэ менш аб „Сельзаюзе“ і „Хадэцыі“. Словам—на беларускасьць скупа, але за тое на расейшчыву аж надта багата. Шырокую працу на Баранавіцкім абшары распачала расейская арганізацыя РНО. (Русское Народное Объединеніе). Трэба аддаць слушнасьць працавітасьці некаторых паасобных асобаў, як, напрыклад, Аляксандру Аляксандравічу Арлову. Чалавек гэты не мае супакою ані ў дзень, ані ў ночы. Ён і сэкрэтарствуе і дае лекцыі, сьцягае падаткі (бо ў магістраце служыць). Усюды, дзе ідзе аб актыўнасьці расейскага чалавека сярод расейцаў—А. А. Арлоў там. Расейцы яго працаю не нахваляцца. Але мы, беларусы, гледзячы на працу Арлова, сумна ківаем галавою і многіх рэчаў не разумеем... Не так даўно яшчэ, Арлоў быў выведоўцам польскае паліцыі, шпікаваў у Вільні сярод Беларусаў, потым у Стоўпцах, Івенцы, на Палесьсі і г. д. Не адзін дзесятак людзей праз яго ласку пакаштаваў вастрогу і пабразгаў кайданамі. На баданьнях, палітычная паліцыя чытае велізарныя томы усялякіх даносаў, напісаных рукою Арлова. Ён усё знае і ведае, выкрывае сьпіскі й змовы.... За паўзлотку і кварту гарэлкі ён прыме ўсякі заказ „вывесьці на чыстую ваду чалавека“. Нават, як гавораць, і свайго начальніка, старшага сышчыка ўвапхнуў у вастрог. У працы Арлова могуць быць дзьве магчымасьці: альбо Арлоў і ўся расейская арганізацыя ў Баранавічах РНО. ёсьць адно і тое самае, „Единая, недѣлимая“, альбо Арлоў напрактыкаваўшыся на беларусах распускае свае цянёты і на расейцаў.

Ой, глядзі РНО., каб цябе Арлоў не пацягнуў на дно. Сноўскі.

### Трымайся Беларус.

Ніжэй зьмяшчаем ліст з пастаўскага павету, які шмат аб чым гаворыць. Ужо вылазяць з нораў рожныя прыяцелі нашага народу і як заўсёды ды на перад пнуцца тыя, якія найбольш душылі ў часе пасьля выбараў 1922 г. Выходзяць на форум ізноў тыя „вызваленцы“, якія ўвесь час вызвалялі наш народ ад вольнасьці, зямлі і школы, дарачы нам — вастрогі, асаднікаў ды чужацкую школу.

Вось што піша аб іх пастаўскі селянін.

„Як відаць надходзяць выбары і трэба было-б распачаць працу сур'езна. Многа ўжо набралася „przyjacielów“ нашага сярмяжніка і што раз прыбаўляецца, а асабліва ў апошні час сялянства наша стараюцца зводзіць з толку „Towarzystwem Kultura“, каторае на 6-га г. месяца ладзіць у Вільні зьезд, на які шырока запрашае Беларусаў абяцаючы зьніжку білета. А адзін з кіраўнікоў „Культуры“ адв. Рачкевіч вызваленец, які пусьціў у наш павет сваіх некалькі інструктароў, удзяляе безплатна праўных парад для ўсіх тых, хто да іх запішацца.

Таксама Партыя Працы, карыстаючыся тым, што ёсьць янаўрадовая, сьпешна творыць гмін. колы робячы сабраньні ў гмінных урадах, але ўсё гэта нястрашна, калі мы прыступім к рабоце. Толькі адно можа пашкодзіць гэта (калі так сталася) павялічэньня Пасольскага Клюбу скампрамітаванымі ў нашым павеце пасламі (разумеецца Шакун і Шапель). А. Т.

### Аб школе.

(в. Зарэчча і Малеўшчына Нясьвіскага павету).

Яшчэ ў мінулым годзе сяляне вёсак Зарэчча і Малеўшчына падалі школьнаму інспэктару нясьвескага павету 36 дэклярацыяў на 53 дзяцей. Здавалася, што ў выніку гэтага павінна была быць адчынена беларуская школа ў памянёных вышэй вёсках. Але вышла не так. Школьны інспэктар усякімі спосабамі стараўся зьменшыць лік пададзяных дзяцей, і пры помачы панскіх падлізьнікаў і несьвядомых бацькоў дапяў гэтага. Былі паданы дэклярацыі ў другі раз! I вось перад першым гэтага месяца была атрымана папера ад школьнага інспэктара, якая кажа, што „pozostaje w szkole język polski, a prawo na białoruską szkołę upłynęło“. Да гэтае прыкрасьці прыбілася яшчэ і другая, бо замест 53 дзяцей, на якіх падавалі дэклерацыі ў мінулым годзе, у нас аказалася толькі 39, а рэшта... забракаваны!

Ці-ж гэта праўда, што ў нас не хапае аднаго дзіцяці да кампляекту беларускае школы? Калі трэба аднаго, то мы яшчэ дабавім дзесяць, але дайце нам нашу беларускую школу!

Сялянін.

### Аб нашых шкалярох.

Ужо абрыдзела пісаць і чытаць аб польскай школе і яе няшчасных шкалярох, якія ходзяць да яе пад прымусам па пяць, шэсьць гадоў і... нічагусенька ня ведаюць. Калі пагледзім на гэтых шкаляроў, дык сэрца ные, ные... Што з іх будзе? Якая карысьць ад іх будзе нашай бацькаўшчыне?—вось пытаньні, якія не даюць супакою ні днём ні ноччу. Як бы ні была дрэнная расейская школа, але ўсё-ж такі граматы вучыла. За тры гады вучэньня дзіця ведала рахункі, ведала пачаткі географіі, Закону Божага і г. д.

А цяпер што?—Нічога! Ведаюць толькі як зрабіць якую-кольвек цацку з паперы... Прайдзіце з канца ў канец усю Грыцэвіцкаю гміну і вы ня знойдзеця ніводнага вучня польскае школы, які-б ведаў рахункі, ці напісаў-бы хоць адрэс на канвэрцэ...

Вось як вучацца нашыя дзеткі ў польскіх школах. Даўней, дык хоць Бога баяліся нашыя дзеці, а цяпер пра Бога не гамані, нават забыліся ўжо і маліцца Богу! А, праўду кажучы, хто іх навучыць маліцца? Мо', скажэце, бацькі? Бацькі самі ня ўмеюць маліцца, а поп наш зусім аб гэтым і ня думае.

Бацькі! Годзі пазіраць, як калечаць нашых дзетак! Дамагайцеся сваей роднай, беларускай школы! Падавайма дэкляацыі школьнаму інспэктару ў Нясьвіжы! Бацька.

### Аб Іване мудрым.

Ад самага пачатку істнаваньня польскае ўлады, аж да гэтага году у вёсцы Крынках, Стаўпецкага павету, быў солтысам Захар Кушаль. Чалавек ён быў ня кепскі, хоць стараўся дагаджаць войту.

У гэтым годзе захацелі мы новага солтыса, ну й выбралі Івана Мудрага. У скорасьці пасьля выбараў сталі папраўляць у нашых ваколіцах дарогі. Надумаліся і мы папраівіць кусок дарогі ў Крынках. Падалі просьбу. Цераз 2 тыдні прыехаў інжынер, агледзіў тую дарогу і... паехаў. Мы думалі—прапалі нашыя стараньні. Але не! Інжынер прыслаў дзясятніка і пачалі правіць. Сяляне хутка адбылі свае павіннасьці па наказах гміны, але дарогі крыху асталося незаконачанай. Асталася-ж да гэтага неадбытая дарожная павіннасьць і паном. Але дзе бачым, каб пан правіў дарогу, калі ёсьць панскія падлізьнікі.

Пабываўшы ў гміне Мудры сабраў сялян і сказаў, што войт даў загад выгнаць усіх сялян з падводамі і закончыць дарогу. Загад, дык загад! Сялянам прышлося працаваць... на паншчыне, бо як яны адбывалі павіннасьць па наказах, дык імі камандаваў дзесятнік, а як Мудры пастараўся, то над сялянамі стаяў пан. Як там не было, а Мудры атрымаў ад пана кусок сенажаці, як гавораць, людзі за тое, што „вымудраваў“ пана ад дарожнае павіннасьці.

Янка Праўдзін.

### Асадніцкая прывілея.

(в. Сяменчыкі, Дзісьненскага пав.).

3-га лістапада г. г. у нашую вёску прыежджаў асаднік. Ехаў ён, як добры пан на пары коней, а за ім бегла аж трое сабак.

Каля вёскі на пашы хадзілі гусі Базыля Сапея. Сабакі напалі на гусей і давай гуляць з імі, вядома, пасабачаму. Як бачыш, адна гусь была задушана... Ня ведама, чым кончылася-б гэтая гульня, каб не прыбеглі суседзі і не адбілі сабак ад гусей... А асаднік едзе сабе і толькі ўсьміхаецца...

Вось, браточкі, якія парадкі! Калі сялянін мае сабачку з ката вялічынёю, дык павінен яго трымаць на ланцугу. Калі-ж, часам сарвецца ён і пройдзе паліцыянт — то і чакай карнага наказу ад старасты — гатуй 3 злоты.

А як у асадніка трое сабак бадзяюцца і душаць сялянскіх гусей — то гэта нічога.

Позны падпішчык.

# Пісьмо ў Рэдакцыю.

Паважаны Гр. Рэдактар!

Ласкава просім зьмясьціць у Вашай паважанай часопісі наступнае:

„Урад Беларускага Студэнскага Саюзу згодна з пастановаю агульнага сходу з дня 20 лістапада 1927 г. сцьвярджае, што Беларускі Студэнскі Саюз зьяўляецца сябрам і належаць да студэнскай арганізацыі А. Б. С. А. (Аб'яднаньне Беларускіх Студэнскіх Арганізацыяў).

Старшыня **Т. Куніцкі.**

Сэкрэтар **С. Станкевіч.**

# НАШАЯ ПОШТА.

**Сьлёзнавокаму**—Вашыя вершы перадалі ў „Biełaruskuju Krynicu“. Адрэс „В. К.“—Людвісарская 1—19.

Рэдактар і выдавец А. Герасімчук.

Беларуская Друкарня ім. Ф. Скарыны, Вільня—Людвісарская 1.